Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 38. Вільня, 10 сьнежня 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Ціхая вуліца № 4, (альбо Міцкевіча № 15) кват. № 20. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |


## Атака на Краёвы Народны Саюз.

Не пасьпеў заснавацца Краёвы Народны Саюз Літоўска-Беларускіх Земляў, у які ўступіла і Беларуская Радыкальная Народная Партыя, як з усіх бакоў на гэтую новую арганізацыю пасыпаліся ўдары. Перш за ўсё заварушыліся заядлыя цэнтралістыя—бюракраты з „Вызваленьня“, якія павялі шалёную атаку на нашых братоў мясцовых палякоў—вызваленцаў, парваўшых з цэнтральнымі сваімі органамі ў Варшаве і стаўшых на мясцовы краёвы грунт.

Вядомага віленскага грамадзкага дзеяча, адваката Рачкевіча, сябра Галоўнае Рады „Вызваленьня“, за тое, што ён прыйшоў да перакананьня аб шкоднасьці працы „Вызваленьня“, на Літоўска-Беларускіх землях, за тое, што ён прызнаў усю нацыянальную палітыку „Вызваленьня“, як у мінулым, так і сягоньня памылковаю, за тое, што ён выступіў у абарону беларусаў і стаў адным з ініцыятараў заснаваньня Краёвага Народнага Саюзу, у які ўваходзяць усе бяз розьніцы нацыянальнасьці і рэлігіі, за гэты сьмелы і мужны крок гр. Мечыслава Рачкевіча, яго ўчарайшыя „прыяцелі“ гатовы ачарніць і гэтым самым падарваць працу Краёвага Народнага Саюзу ў самым пачатку. Гэтыя самыя „Вызваленцы“ з Варшавы выдаюць спэцыяльныя адозвы проціў Рачкевіча і ягоных прыхільнікаў, у якіх друкуюць розныя недастойныя паважнае палітычнае партыі плёткі.

Далей P. P. S. — тая самая Польская Соцыялістычная Партыя, якая нарабіла на Палесьсі шмат фатальных памылак, якая друкавала ў нас сваю дэмагогічную газэту у расейскай мове, „Красное Знамя“, якая ня маець у сваіх радох сягоньня аніводнага беларуса, якая нібыто так сама, як і Краёвы Саюз, стаіць за аўтаномію, а сапраўды для гэтае аўтаноміі і пальцам у боце ня кіўнула, таксама ў сваім цэнтральным органе „Robotnik“ стараецца фальшыва інфармаваць народныя масы аб нашым краёвым народным руху. І дзіўная рэч. Разам з гэтымі польскімі левымі партыямі аднолькава варожа проціў краёўцаў выступаець і Партыя Працы, проціў якое Краёвы Народны Саюз ня выступіў, не выступае і ня будзе выступаць, хоць-бы дзеля таго, што ўплывы гэтае маладое польскае партыі ў нас вельмі малыя. Калі-ж Партыя Працы думаець, што Краёвы Народны Саюз зьяўляецца выбарным конкурэнтам, то бязумоўна, што тут Партыя Працы вельмі мыляецца, бо агульна вядомым фактам зьяўляецца, што на нашай вёсцы Партыя Працы ўплываў ня маець, а тых дробных мяшчан і чыноўнікаў, якімі карыстаецца партыя працы, Краёвы Саюз на свой бок прыцягваць ня будзе.

Ня кажам зусім аб правых польскіх партыях, якія кваліфікуюць Краёвы Народны Саюз, як саюз сэпаратыстых і бальшавікоў, ня кажам аб бясьсільнай злосьці ура-„беларусса“ Паўлюкевіча, які таксама хоча быць у Сойме і выліваець на Краёвы Саюз масу

сваіх паўлюкевічаўскіх глупстваў, розныя беларускія групы, асабліва-ж Сельсаюз пана Більдзюкевіча і Яраміча таксама стараецца з усіх сваіх слабых сілаў паралiжаваць працу нашае краёвае арганізацыі, бо баіцца яе больш, як агню, баіцца гэтае краёвасьці, якая ў будучыне зьліквідуе ў нашым краі ўсіх палітычных спэкулянтаў і спэкулянцікаў.

Адным словам, усе пачалі атаку на Краёвы Народны Саюз, усе, пачынаючы ад „правых“ і канчаючы „левымі“ — Сельсаюзьнікамі, прыяцелямі жыдоўскіх рабінаў і купцоў і нямецкіх фабрыкантаў.

Гэтая бясьсільная атака ворагаў краёвае, аўтанамічнае ідэі сьведчыць толькі аб адным, што Краёвы Народны Саюз адразу стаў на цьвёрды грунт, грунт рэальны, стаў на правідловы шлях барацьбы за дабро нашага краю і яго адраджэньне.

Найлепшым адказам на ўсе гэтыя атакі будзець энэргічная арганізацыйная праца ўсіх прыхільнікаў нашае ідэі, узмацаваньне арганізацыі як у цэнтры, так і на месцах.

## Роспуск Сойму і Сэнату.

Выбары ў Сойм 4 сакавіка, а ў Сэнат 11 сакавіка 1928 г.

5 сьнежня апублікованы дэкрэт Прэзыдэнта Рэспублікі аб роспуску Сойму, падпісаны, апрача Прэзыдэнта, Старшынёю Міністраў Язэпам Пілсудскім, міністрам унутраных справаў Складкоўскім і міністрам справядлівасьці Мэйштовічам. Адначасна апублікованы наступныя тэрміны ўсіх паасобных выбарных дзейнасьцяў.

13 сьнежня 1927 г. 8 найвялікшых пасольскіх клюбаў прадстаўляюць гэнэральнаму выбарнаму камісару 8 сяброў дзяржаўнай выбарчай камісіі і столькі-ж заступнікаў.

15 сьнежня 1927 г. Гэнэральны выбарчы камісар па прапазыцыі паасобных прэзэсаў апэляцыйных судоў назначаць старшыняў акружных выбарчых камісіяў. Ваявода, (камісар ураду) назначае па адным сябру акружных выбарчых камісіяў.

Гэнэральны выбарчы камісар апублікуе ў урадовым „Monitorze Polskim“ аб пэрсанальным складзе і ўрадовым памешканьні, і аб месцы, часе, спосабе і апошнім тэрміне прадстаўленьня дзяржаўных сьпіскаў кандыдатаў.

17 сьнежня 1927 г. Гэнэральны выбарчы камісар апублікуе ў ваяводзкім урадовым органе назначэньне старшыняў акружных выбарчых камісіяў і іх заступнікаў.

Ваявода (камісар ураду) апублікуе назначэньне сяброў акружных выбарчых камісіяў, ім назначаных.

Мястовыя рады і сойміки выбіраюць сяброў акружной выбарчай камісіі, аб чым паведамляюць акружную выбарчую камісію.

19 сьнежня 1927 г. Старшыня акружной выбарчай камісіі апублікуе пэрсональны склад камісіі ў ваяводзкім урадовым органе.

20 сьнежня 1927 г. Валасная рада, або сабраньне старастаў, або ўрадовы камісар, або паявтовы аддзел назначае 3 сяброў акружной выбарчай камісіі і столькі-ж заступнікаў.

25 сьнежня 1927 г. Войты робяць спэцыяльны сьпіс для кожнай мясцовасьці ў 3 экзэмплярах.

2 студня 1928 г. Акружныя выбарчыя камісія выстаўляюць сьпіс выбаршчыкаў, дзеля публічнага перагляду.

## Праблемы русыфікацыі пад Польшчай.

На такую тэму быў 4.XII прачытаны рэфэрат у Беларускім Студэнскім Саюзе ст. М. Шавель. Галоўныя думкі рэфэрату зводзяцца да наступнага:

Перш за ўсё трэба адцеміць, што пытаньне, закранутае ў рэфэраце, зьяўляецца вельмі актуальным і добра зрабіў Б. С. Саюз, уносячы пад развагу сваіх сяброў і запрошаных гасьцей праблему русыфікацыі ў Заходняй Беларусі.

Разгляд пытаньня пачаўся ад часу сусьветнае вайны 1914 г. Другі год гэтае вайны разьбіў вялікі апарат русыфікацыі Беларусі, калі ў 1915 г. разам з адступаўшымі расейскімі войскамі, адышлі з Беларускіх земляў тыя групы насельніцтва іх, якія праводзілі русыфікатарскую работу: чыноўніцтва, абшарнікі і праваслаўнае духавенства, а таксама гарадзкая інтэлігэнцыя, буржуазная па соцыяльнаму палажэньню і маскаляфільская ў сваёй масе, хоць не расейская этнічна, як жыды.

„Сѣверо-Западный Край“ так сама, як і „Привислинскій Край“, паводле прынятай русыфікатарамі тэрмінолёгіі, аказаліся без апякуноў і пачалі самі думаць аб сваім лёсе, праўда, падпаўшы пад часовую апеку нямецкага окупанта.

Гэты новы апякун унёс эўропэйскія пагляды на справу нацыянальнага складу занятых абшараў, прызнаўшы існаваньне ў Заходняй Беларусі беларускага насельніцтва, якое 10 гадоў перад тым заявіла аб сваім нацыянальным абліччы ў першых часопісях „Нашай Долі“ і „Нашай Ніве“, увайшоўшы гэткім чынам у сям'ю тых народаў, якія ў XX стагодзьдзі пачалі рэалізаваць думку аб нацыянальным вызваленьні.

У выніку адыходу з моцна акопаных пазыцыяў русыфікатарскага фронту з бышых „краёў Расеі“ з аднаго боку, імкненьня да нацыянальнае свабоды і незалежнасьці палітычнае з другога, паўстае акт 25 сакавіка 1918 г.: Сэкрэтарыят Беларускае Народнае Рэспублікі. Рэгенства ў Варшаве і Нацыянальная Рада ў Кіеве.

Русыфікатарскія пазыцыі аказаліся зраўняныя з зямлёю і на іх месцы закрасавалі мясцовыя пралескі з пышнымі букетамі.

Пасьля бальшавіцкага перавароту і зьнішчэньня самадзяржаўнага ладу ў Расеі, калі немцы пачалі прапускаць у занятыя імі землі выгнаных казакамі бежанцаў, разам з імі варочаюцца цэлыя масы б. *русских* людзей, якія ўцякаюць з-пад чырвонае Расеі, дзе ім ня было месца ў тыя самыя акопы русыфікацыі, на якіх так лёгка і прывольна жылося царскім служкам ды прыслужнікам і якія імі-ж былі збудованы.

Папаўшы ў новыя палітычныя абставіны жыцьця пад Польшчай, б. царскія людзі, помнячы добра свае адносіны да праяваў г. зв. польскай

15 студня 1928 г. Апошні дзень выстаўленьня выбаршчыкаў дзеля публічнага перагляду.

16 студня 1928 г. Апошні тэрмін уношаньня рэклямацыяў да акружной выбарчай камісіі проціў прапушчэньня ў сьпісе або ўпісаньня каго-колечы няправільна.

22 студня 1928 г. Апошні тэрмін складаньня спраціваў проціў рэклямацыяў аб выкрасьленьні з сьпіску.

24 студня 1928 г. Прадстаўленьне дзяржаўных сьпіскаў кандыдатаў.

1 лютага 1928 г. Кандыдаты з дзяржаўных сьпіскаў падаюць на рукі старшыні дзяржаўнай выбарчай камісіі заяву аб сваёй згодзе кандыдаваць і што кандыдат лічыцца польскім грамадзянінам і што паводле свае найлепшае веды маець пасыўнае выбарнае права.

3 лютага 1928 г. Старшыні акружных выбарчых камісіяў падаюць аканчальна зацьверджаны сьпісак выбаршчыкаў для публічнага перагляду.

11 лютага 1928 г. Кандыдаты з акружных сьпіскаў складаюць на рукі старшыні акружной выбарчай камісіі заявы аб згодзе кандыдаваць, і што кандыдат лічыць сябе польскім грамадзянінам, і што паводле свае найлепшай веды маець кандыдат пасыўнае выбарнае права.

13 лютага 1928 г. Апошні дзень перагляду зацьверджанага аканчальна сьпіску выбаршчыкаў.

21 лютага 1928 г. Акружныя выбарчыя камісіі публікуюць аф шы з сьпіскамі кандыдатаў.

4 сакавіка 1928 г. Галасаваньне ў Сойм.

7 сакавіка 1928 г. Паседжаньне акружной выбарчай камісіі для ўстанаўленьня рэзультатаў выбару ў Сойм.

11 сакавіка 1928 г. Галасаваньне ў Сэнат.

14 сакавіка 1928 г. Паседжаньне акружной выбарчай камісіі для ўстанаўленьня рэзультатаў выбараў у Сэнат.

---

## Наша праграма:

1) Краёвая Народная Улада.
2) Зямля — мясцоваму сялянству.
3) Асьвета ў роднай мове.
4) Гаспадарчае адраджэньне.
5) Братэрства Народаў.

---

## Што дзеецца у Расеі.

Толькі цяпер дайшлі весткі аб тым, што дзеецца ў Расеі. Разам з гэтым вельмі цікава расказваюць самыя камуністыя, якая „свабода" пануе пад уладай бальшавікоў.

Цяпер пасварыліся паміж сабою бальшавіцкія павадыры. Пакуль ня было гэтае сваркі, усе яны на ўвесь сьвет крычалі аб свабодзе і роўнасьці працоўных масаў пад чырвонымі сьцягамі камунізму.

Але вышла шыла з мяшка.

„Опозыцыянэры"—Троцкі, Зіноўеў, Прэабражэнскі і Ракоўскі цяпер асьмеліліся выказаць *праўду* аб тым, як жывецца пад бальшавіцкаю ўладаю.

Змусіла іх да выяўленьня малой часьці праўдзівага палажэньня ў Радавай Расеі тое, што ўрэшце і ім забаранілі гаварыць і думаць, як дагэтуль гэтыя самыя бальшавіцкія гэнэралы забаранялі праяўляць усялякую думку і крыты-

---

ды беларускай „ірэдэнты", не выяўляюць выразна свайго нацыянальнага аблічча і маўчаць аб сваіх лятуценьнях палітычных, часта-густа запісваюцца, як беларусы, баючыся з боку пануючае народнасьці і дзяржаўнага апарату адплаты за сваю даваенную работу на русыфікатырскіх „пазыцыях".

Аднак, пацішу неарганізованую работу сваю вядуць цераз праваслаўнае духавенства, якое зьяўляецца ў Заходняй Беларусі без малога ўсё *„истинно-русским"*, хоць фармальна ня ўносіць ужо складак у *„союз русскаго народа"*. Яго склад папоўніўся б. балахоўцамі, якія на становішчах сьвяшчэньнікаў знаходзяць добры кусок хлеба ды яшчэ хлеба белага, ня будучы зьвязаны з насельніцтвам сваіх прыходаў ані нацыянальна, ані соцыяльна, палітычна-ж усе яны лятуцяць аб паваротце *„единой недълимой"* вялікай Расеі.

У 1926 годзе інэртнасьць маскаляфіляў, ці ляпей масквалёфіляў замяняецца на арганізованае выступленьне ў радох г. зв. Расейскага Народнага Аб'яднаньня, якое ўтварылася ў Львове. Дакладчыца даволі цікава вяжа акцыю гэтага Аб'яднаньня на львоўскім грунце з д ваенной работай галіцыйскіх маскаляфіляў, якія ў лучнасьці з польскай эндэцыяй змагаліся з вызвольным украінскім рухам у другой палове XIX ст. ува Ўсходняй Галічыне.

Дакладчыца выказвае гіпотэзу, быццам маскаляфільскія тэндэнцыі паўсталі ўва Ўсходняй Галічыне пасьля адушэньня вэнгерскага паўстаньня войскамі „жандара Эўропы" Мікалая І-га. У зьвязку, з пераходам войскаў расейскіх цераз Усходнюю Галічыну паявіліся там сымпатыі да Масквы сярод групкі інтэлігэнцыі, якая баялася дэмакратычнага украінскага руху. Гэтае маскаляфільства інтэлігэнтаў не магло мець шырэйшага пасьпеху сярод украінскіх масаў і было-б замярло натуральнай сьмерцяй, каб не знайшло апекі з боку польскай рэакцыі, ўстрывожанай украінскім нацыянальным рухам. Палякі заключылі пакт з маскаляфілямі ў Галічыне і памаглі ім сваім дзяржаўным апаратам правясьці паслоў у Венскі парлямэнт і Галіцыйскі Краёвы Сойм.

Пасьля маскаляфільства карысталася падтрыманьнем, асабліва грашавым, з боку расейскіх нацыяналістычных партыяў, якія вялі палітыку уціску ўсіх славянскіх меншасьцяў у Расеі, а горача дбалі аб м скаляф лях пад Аўстрыяю. Вайна разьбіла альянс польскай эндэцыі з паклоньнікамі Масквы ўва Ўсходняй Галічыне.

Традыцыі гэтага маскаляфільства жывыя дагэтуль у Львове і т му т м зрадзілася Расейскае Народнае Аб'яднаньне, якое адразу ў сваім „маніфэсьце" выкрасьліла з аблічча зямлі Украінскі і Беларускі народы, заявіўшы, што ўсё гэта адзін

каваць дзейнасьць бальшавіцкае ўлады ўсяму насельніцтву.

Непагадзіўшыся паміж сабою за ўладу і ўрадовыя пасады, аказаўшыся ў меншасьці, быўшыя таварышы і памочнікі самога Леніна адкрываць сталі праўду—аб сыстэме ўціску і падняволеньня ўсялякае праявы думкі, калі яна ня носіць пячаткі „дазволена камуністычнаю цэнзураю“.

У менскай часопісі „Зьвязда“ за 24.XI. № 267 чытаем, як гаворыць Зіноўеў на сабраньні рабочых: „Вядучы з рабочымі гутарку, кідаючы па адрасе партыі (бальшавікоў—Рэд.) шэраг зусім нячуваных абвіненьняў Зіноўеў паміж іншым кажа: „Дарэчы кажучы, як гэта ня прыкра, ў *Гіндэнбурскай Нямеччыне куды вальней, чым у нас.* Я сьмела магу сказаць, што там *зараз* (цяпер?—Рэд.) няма ніводнага камуністага ў турме. Можна пісаць і гаварыць, што х чаш, а ў нас—сёньня скажаш на партыйным сходзе супроць сэкрэтара, ці супраць якой-небудзь памылкі партыйнага апарату, а заўтра цябе выключаць з партыі“ *).

А вось словы другога бальшавіцкага „гэнэрала“, б. Старшыні Рады Народных Камісараў Украіны і б. пасла ў Парыжы. Ён гаварыў на паседжаньні мястовага Савету ў Харкаве, выступаў супроць большасьці камуністычнае партыі на чале са Сталіным.

Яму адабралі слова і вось тады Ракоўскі зьвярнуўся да гасьцей, быўшых на паседжаньні—дэлегатаў ад нямецкае рабочае клясы, панямецку:

„Вы чуеце, *якая ў нас, у савецкай краіне, ў сапраўднасьці ёсьць свабода, вы чуеце, як фашыстыя распраўляюцца з тымі, хто хоча сказаць рабочай клясе і народу слова*“.

А вось словы найвыдатнейшага бальшавіцкага дзеяча Троцкага, сказаныя найвышэйшаму органу камуністычнае партыі—Цэнтральнай Кантрольнай Камісіі, якая зьяўляецца найвышэйшым партыйным судом і якая дамагалася ад Троцкага заявы аб прыпыненьні опозыцыйнае работы ў радох партыі: „*Вы мне ня судзьдзі, рабочы. яшчэ свайго апошняга слова не сказаў*“.

Як бачым, пачынаецца барацьба ў радох самае камуністычнае партыі. Барацьба гэтая выявілася ўжо ў форме аружнага паўстаньня ў радох бальшавіцкага войска, якое ў Адэсе адмовілася выконваць прыказы з Масквы, забіла прысланага адтуль камісара Дружэнкава, галава якога была вывешана на паказ.

Адэскі гарнізон падтрымлівае бальшавіцкую опозыцыю на чале з Троцкім і іншымі вядомымі камуністымі.

Вайсковыя аддзелы ў Украіне таксама прыхіляюцца на бок опозыцыі.

Стаімо напярэдадні нейкіх выпадкаў у Расеі. Камуністыя дагэтуль праяўлялі адзіны фронт, цяпер ён развальваецца і магчыма, што гэты развал прынясе нешта новае, зусім неспадзяванае, як зусім неспадзяванымі былі вынікі Расейскай Рэвалюцыі.

*) З дакладу Сулімава на XI Зьездзе Кампартыі Беларусі.

## Няхай жыве аўтаномія краю!

Вялікі Расейскі Народ, які ўжывае „расейскае“ мовы ў „акраінным дыялекце“.

Расейцы з Расейскага Народнага Аб'яднаньня хочуць у адносінах да беларусаў адыграць тую самую ролю, якая праводзілася маскаляфілямі адносна украінцаў ува ўсходняй Галічыне. Аналёгія тым выразьней насоўваецца, што польскія шовіністычныя партыі, эндэкі і пэпээсы патураюць расейцам у іх русыфікатарскіх плянах. Бачым у Заходняй Беларусі шмат расейскіх гімназіяў з правамі, у якіх русыфікуецца беларуская моладзь. Эндэкі і пэпээсы выдаюць свае публікацыі парасейску (Палесьсе) і памагаюць русыфікаваць беларускія масы.

Дакладчыца слушна кажа, што гэта бязмозгая палітыка, якая мо' ідзець на кароткую мэту на карысьць польскага шовінізму, але можа мець вялікае ад'емнае значэньне для польскіх інтарэсаў на карысьць трэцяе Расеі.

Патураньне русыфікатарскай рабоце б. царскіх людзей, залажыўшых Расейскае Народнае Аб'яднаньне шкодзіць беларускай адраджэнскай справе, перш за ўсё, але таксама грознае і для дзяржаўных інтарэсаў Польшчы. Ня могучы спалянізаваць праваслаўных беларусаў, польскія шовіністы хочуць іх зрусыфікаваць, забываючыся, што заўтрашні дзень у палітычным жыцьці заўсёды можа даць шмат неспадзевак, якія якраз выкарыстаюць русыфікатарскую работу, робленую б. царскімі людзьмі пры польскай дапамозе на карысьць трэцяе Расеі, аб якой лятуціць усё, што групуецца ў Расейскім Народным Аб'яднаньні.

Яно адбудоўвае новыя пазыцыі русыфікацыі беларускіх сялянскіх масаў, сьпярша ў Палесьсі, пасьля пайдзе далей, пры дапамозе тых дзейнікаў, якія супрацоўнічалі некалі з галіцкімі маскаляфілямі і, адбудаваўшы іх, будзе абстрэльваць беларускія гоні, каб беларускія народныя масы „зьліліся ў расейскім моры“.

Беларускае грамадзянства павінна зьвярнуць на гэта ўвагу і выясьняць народу мэты працы Расейскага Народнага Аб'яднаньня. Хай расейцы працуюць сярод эміграцыі, ці таго здэнацыяналізованага мяшчанства, якое лічыць сябе расейскім, але яны павінны пакінуць сваю работу сярод беларускіх працоўных масаў, якія самі адракуцца ад няпрошаных апякуноў, што закладаюць па нашых вёсках і мястэчках „*чайныя рускаго народа*“.

Пасьля дакладу вывязалася дыскусія, якая якраз добра сьведчыць аб аўдыторыі — сяброх Б. С. Саюзу. У дыскусіі падымалася пытаньне, якім спосабам змагацца з расейскімі ўплывамі сярод беларусаў. Усе прамоўцы ад'емна выказаваліся проціў супольнага выступленьня беларусаў з расейцамі пры выбарах у Самаўрады, як гэта мела месца ў Вільні, дзе п. Ярэміч утварыў блёк з маскалямі.

Выказвалася пажаданьне беларусізацыі праваслаўнае царквы, гэтае цьвярдыні расейшчыны ў нас. Справай гэтай запраўды павінны заняцца ўсе беларускія групы, а яна, нажаль, дагэтуль якраз ляжала адлогам.

*Прысутны.*

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Як выбрацьдобрага каня.

(Гл. № 37 „Бел. Дня").

**Шыя.** Што датычыць шыі, дык тут трэба мець на ўвазе мэту, дзеля якой купляецца конь. Калі конь купляецца для таго, каб на ім толькі езьдзіць, дык трэба выбіраць каня з болей доўгай і тонкай шыяй. Каня для гаспадарскай работы лепей выбіраць з болей кароткай шыяй. Конь з кароткай шыяй хоць маець шаг меншы, але затое болей здатны да таго, каб вазіць цяжары. Шыя павінна быць роўная, не гарбатая, як у гусака і не ўвагнёная, як у лася. Верхні грэбень шыі пад грывай павінен быць тонкі, а ніжні пад горлам, тоўсты, круглы. Шыя не павінна быць „сьвіная": кароткая, круглая ды таўстая. Гэткая шыя для каня—пэўны брак. На рысунку 4 паказана нармальная галава і шыя гаспадарскага каня.

**Карак** (холка). Пры аглядзе карку, трэба ведаць, што высокі і доўгі карак памагаець хутчэй і крапчэй валадаць пярэднімі нагамі. Чым вышэй, даўжэй і шырэй карак, тым конь крапчэй на перад, маець болей шырокі шаг, а ад гэтага і болей шпаркі ход. Конь з нізкім каркам скарэй прыстаець у рабоце, заціхаецца пярэднімі капытамі і ня маець, як кажуць, у нагах ходу; апрача гэтага, нізкі карак надта скора набіваецца. Трэба мець на ўвазе, што ў жарабят і ў коняй да гадоў 4—5 карак бываець ня зусім вырасшы, і можаць выглядаць нізкаваты і ад гэтага на карку ў каня могуць быць раны, нарывы, струпы. Такія „набітыя" каркі зусім непажаданыя, калі яго навет і залячыць, то ён хутка можаць набіцца ізноў.

**Сьпіна** ў крэпкіх коняй павінна быць роўная, досыць доўгая і шырокая. На гэткай сьпіне добра трымаецца сядло, падсядзёлак, а апрача таго, гэткая сьпіна самая крэпкая. Гарбатая сьпіна, калі яна такая ад прыроды, таксама ня лічыцца слабою, але пры такой сьпіне найчасьцей бываюць плоскія скабы, вузкія грудзі і кароткі шаг. Кароткая сьпіна ў каня, які толькі ўжываецца для працы і ціхай язды, ня можаць лічыцца бракам, але для каня, якога маюцца ужываць найболей для язды ды яшчэ вярхом, кароткая сьпіна ёсьць ужо пэўны брак, бо пры гэткай сьпіне нагам мала ходу і заднія капыты будуць заўсёды засякаць пярэднія, апрача гэтага, кароткая сьпіна нягібучая і трасець. Пры тонкай сьпіне бываюць, як і пры гарбатай, тонкія грудзі. Надта доўгую сьпіну трэба лічыць найгоршай для гаспадарскага каня. Праўда, пры доўгай сьпіне конь маець шпаркі ход, але пры цяжкай працы, гэткая сьпіна надта хутка робіцца ўгібістай (угнутай у сярэдзіну), што складаець вялікі брак для кожнага каня. Наагул, лічаць, што даўжыня сьпіны разам з даўжыней паясьніцы павінна быць роўна даўжыні галавы каня.

**Паясьніца** найлепшай будзе шырокая і кароткая, якая няўзнаку пераходзіць у крыж. Пры доўгай паясьніцы бываець, як кажуць, вялікі бок (галодная яміна, уздухі) і болей кароткія і плоскія грудзі, ад чаго конь бываець болей слабы. Конь з кароткай ды шырокай паясьніцай маець бок маленькі, так што і галодны выглядае поўным, тады як пры доўгай паясьніцы ўздухі будуць глыбока ўпаўшымі ўсярэдзіну. Калі паміж паясьніцай і крыжам ёсьць ямінка, дык гэта пэўная прымета, што паясьніца слабая; слабою лічыцца таксама і вострая паясьніца. Каб пераканацца, ці крэпкая ў каня паясьніца, радзяць гэткі спосаб. Трэба стаць з боку каня, адвярнуўшыся сьпіной да яго галавы і правёўшы рукой ад карку па сьпіне да паясьніцы, ушчыкнуць пасярод паясьніцы. Конь з слабою паясьніцай увагнецца, а з крэпкай—толькі троху.

**Крыжавіна** (крыж) у добрага каня абавязкова павінна быць доўгай і шырокай як-бы чатырохкантовай. Чым даўжэй і шырэй крыжавіна, тым конь крапчэйшы. Найлепшы будзе крыж, калі даўжыня яго роўна даўжыне сьпіны і паясьніцы разам, або даўжыне галавы. Крыж можа быць роўны і спадзісты к хвасту. Надта спадзісты крыж дрэнны тым, што ён звычайна бываець кароткі, і каню прыходзіцца падгібаць пад сябе заднія ногі, а гэта памяншаець сілу ног і іх шпаркасьць, пры тым-жа ў часе бегу заднія капыты засякаюць пярэднія. Пры роўным крыжы конь трымаець заднія ногі, адставіўшы назад, што таксама ня зусім добра. Крыж, які маець яміну каля караня хваста (курыны крыж), лічыцца самым слабым. Найлепшы крыж—шырокі, доўгі і троху спадзісты.

**Грудзі** складаюць вельмі важную частку цела каня. У грудзёх зьмяшчаюцца такія важныя органы для жыцьця і здароўя каня, як сэрца і лёгкія. Зразумела, што чым большыя ў каня грудзі, тым лёгкія і сэрца павінны быць большымі, а і конь крапчэйшы і здаравейшы. Грудзі ў добрага каня павінны быць шырокія, доўгія і глыбокія. Глыбіня грудзей мерыцца ад карку да лакця. Глыбіня грудзей павінна быць роўна даўжыні пярэдніх ног ад зямлі да лакця, або інакш кажучы, як ад карку да лакця — так і ад лакця да канца капытаў павінна быць аднолькавая мера. Напрыклад, калі глыбіня грудзей (ад карку да лакця) чатыры пядзі з палавінай, то гэтулькі сама павінна быць і ад лакця да зямлі. Толькі ў рысакоў і наагул верхавых коняй, якія маюць высокія крэпкія ногі, даўжыня ад карку да лакця можа быць меншая, як ад лакця да зямлі. Даўжыня грудзей мерыцца ад плечавога сустава да сярэдзіны апошняй скабы. Чым грудзі будуць даўжэйшыя, тым конь будзець трывалейшы. Аб шырыне грудзей можна пераканацца, калі глядзець на каня сьпераду і па тым, як растаўлены пярэднія ногі. Пры тонкіх грудзях пярэднія ногі ўверсе сходзяцца блізка, а ў капытах бываюць растапыраны; пры шырокіх грудзях, наадварот. Для гаспадарскага каня пажаданы грудзі якнайшырэйшыя. Для легцавых і верхавых коняй шырокія грудзі да некаторай меры перашкаджаюць шпаркасьці бегу, так што для рысакоў і вінаходаў пажаданы грудзі болей доўгія і глыбокія. Аглядаючы грудзі, трэба зьвярнуць увагу і на скабы, па якіх таксама можна ў значнай меры адгадаць шырыню грудзей. Пры плоскіх скабах грудзі бываюць вузкія, а пры крутых—шырокія і ўсё тулава каня выглядае бочкай.

Як мерыцца даўжыня грудзей было казана вышэй.

**Бруха** можа быць роўнае, пад'жарае і абвіслае, як у каровы. Пад'жарае (падабранае пад жывот) бруха сьведчыць аб тым, што конь нездароў на жываты (маець запаленьне, катар кішок), або быў доўга галодны. Кароўе—абвіслае—бруха бываець ад цяжкага маластраўнага корму: саломы, благога сена і г. д. Гэткае бруха сваім цяжарам перашкаджае каню бегчы, а расьцягнуты грубым кормам трыбух давіць на лёгкія і не даець каню вольна дыхаць. Лепшым будзе бруха роўнае, калі яно няўзнаку сходзіцца з грудной клеткай.

**Уздухі** (пах) знаходзяцца за скабамі пад паясьніцай над брухам. У крэпкіх коняй уздухі бываюць невялікія, кароткія, так што ў яміну месьціцца толькі кулак. У гэткім разе кажуць, што ў каня малы бок. Даўгі, вялікі бок бываець у слабасільных коняй, а глыбокі ў старых і спрацованых. У кабылаў уздухі бываюць параўнаўча большыя, чым у коняй. У здаровага каня ўздухі ў часе дыханьня паднімаюцца і апускаюцца зусім малазаметна і роўна. Калі ў каня дыхавіца, дык падыманьне і апусканьне ўздухаў выразна заметнае і няроўнае. Апрача гэтага, ў дыхавічлівага каня па бакох бруха знаходзіцца жолаб. Каб гэты жолаб было добра знаць, трэба шыбка прагнаць каня і раптам сгрымаць, апрача гэтага тады ў дыхавічлівага каня пачнуць хадзіць нятолькі ўздухі, але і ўсе бакі. Дыхавіца да гэтага часу ёсьць хваробай невылячальнай, а дзеля гэтага трэба асьцерагацца купляць дыхавічлівага каня. Залечаная дыхавіца, пры цяжкай рабоце, адсочваецца ізноў. Дыхавічлівы конь ні да працы, ні да праездкі зусім няпрыгодны.

**Хвост** удалыя. рацівыя коні трымаюць у часе ходкі чуць паднятым. Ведаючы гэту прымету, барышнікі падрэзваюць зысподу корань хваста, каб конь трымаў яго адстаўленым. Але гэткае ашуканства лёгка выкрыць, калі аглядзець зьнізу корань хваста.

**Машонка** ў жарабцоў не павінна быць адвіслай, вялікай, але таксама мусіць быць і незанадта маленькая. У машонцы павінны знаходзіцца абодва яйцы. Здаровыя яйцы конь даець шчупаць сьмела; калі жарабок не даець шчупаць машонкі, то можна думаць, што яна яму баліць, а значыць конь хворы. Бываюць выпадкі, калі адно або і два яйкі ня ўходзяць у машонку, а застаюцца ў падбрушшы. Гэткі конь называецца нутрацом. Нутраца на абодва яйцы можна зусім лёгка купіць за кладзенага каня. Каб не зрабіць гэткай памылкі, трэба пашукаць на машонцы знакоў ад кладзіва. Калі будуць зажыўшыя парэзы скуры, тады можна лічыць, шты конь кладжаны (лягчоны). Аднак, каб збыць нутраца на абодва яйцы, барышнікі разрэзваюць машонку, каб зрабіць раны, як у каня кладжанага. Калі на машонцы ёсьць знакі, але конь па сваіх абыходах выглядае нутрацом, то трэба падвясьці яго да кабылы. Калі пры кабыле ён будзе трымаць сябе, як жарабец, то значыць мы маем дачыненьне з нутрацом. Нутрацы звычайна бываюць надта сярдзітыя і трымаць іх у гаспадарцы бываець і небясьпечна і клапотна. Нутрацы, апрача таго бываюць, бясплодныя: кабылы ад іх ня прымаюцца.

Бываюць выпадкі, што і кладзены кон маець вялікую машонку, як жарабок. Гэткая машонка (пустая) ў каня знаходзіцца пасьля няўмелага кладжэньня канавалам, або калі каня зараз-жа пасьля кладзіва ўжываюць да цяжкой працы. Купляць гэткага каня ня трэба, бо яго прыдзецца лячыць, а то і класьці другі раз.

**Пуздры** павінны быць цэлыя, неапухшыя і ўсярэдзіне чыстыя. Самы корань у каня можа быць хворы, дзеля гэтага трэба зьвярнуць увагу і на яго. Добра было-б бачыць, як конь мочыцца. Каб памачыцца, конь здаровы корань заўсёды выстаўляець з пуздраў і памачыўшыся хаваець яго ізноў. Калі корань хворы, то конь або мочыцца, не выст-ўляючы кораня: мача выліваецца з похвы, як дождж, або выставіўшы ня можа яго схаваць. Калі ў пуздрах будзе гной, то гэта ўжо значыць, што корань хворы. Дастаць корань у каня досыць лёгка, калі мачыць пуздры цёплай вадой.

**Растаноўка ног.** Разглядзеўшы галаву і тулава каня, глянем цяпер, на якіх нагах і як ён стаіць. Перш за ўсё, глянем на іх збоку і пабачым, як конь стаіць і як расстаўлены ў яго пярэднія і заднія ногі? Зусім правільнай пастаноўкай ног лічыцца такая, калі конь на іх стаіць проста, не нахіліўшыся ані назад, ані наперад (гл. рыс. 1). Усякая іншая прызнаецца няправільнай і маець тую ці іншую нявыгоду для ходкі каня. Так напрыкл., падабраныя пад сябе пярэднія ногі, змушаюць каня, пры бегу з гары, часта капыцціца, апрача таго скарэй прыстаюць. Адстаўленыя наперад таксама маюць вялікі недахват. Конь пераважна апіраецца толькі на пяту капыта, ад чаго часта набіваець капыты і можа добра бегчы толькі па мягкай дарозе, бо па цьвёрдым ступаець нясьмела, а праз гэта ня можаць мець шпаркага ходу. Для шпаркай язды конь з адстаўленымі нагамі горш, чым з падабранымі пад сябе. Тое самае можна сказаць і пра заднія ногі. Падкорчаныя пад сябе заднія ногі не даюць каню крэпасьці і ў часе бегу захватваюць мала месца, а ад гэтага і шаг бываець кароткі. Зад у коняй з гэткімі нагамі бываець слабы. Выцягнутыя назад ногі пераносяць увесь цяжар тулава на пярэднія ногі, ад чаго апошнія хутчэй прыстаюць. бо ня могуць лёгка рухацца Пры выцягнутых задніх нагах, часта сьпіна робіцца перагібістай.

Калі паглядзець на ногі сьпераду ад галавы і з-заду ад хваста, то можна заўважыць вузкую і шырокую растаноўку іх. Пры шырокай растаноўцы капыты будуць далёка адзін ад другога, а пры вузкай наадварот—блізка. Калі пярэднія ногі ў капытах растаўлены шырока ад таго, што конь маець шырокія грудзі, то гэта добра: такі конь будзе дужы і трывалы ў рабоце, але калі пярэднія ногі шырэй растаўлены ў капытах, чым у грудзях, то гэта значыць, што ў каня вузкія грудзі, і конь слабасільны. Вузкая растаноўка пярэдніх ног у капытах навет і пры шырокіх грудзёх нядобра тым, што па першым—конь ня маець такой цьвёрдасьці ў нагах, а па-другім, пры гэткай растаноўцы конь часта засякаець капыта аб капыта.

Аб шырокай і вузкай растаноўцы задніх ног можна сказаць тое самае. Калі шырыня растаноўкі ног залежыць ад шырыні крыжа, то гэта сьведчыць на крэпасьць заду каня, а калі пры вузкім крыжы ногі растапыраны, то ўжо гэта паказваець на слабасільнасьць каня. Вузкая растаноўка задніх, як і пярэдніх ног, заўсёды бывае ў слабых коняй, а дзеля гэтага трэба выбіраць

каня толькі з шырокай растаноўкай пярэдніх і задніх ног.

Ногі ў каня могуць быць кашалапыя, або выверненыя ў сярэдзіну ці на двор. Апрача таго, што тонкія ногі слабыя, яны яшчэ і надта няпрыгожыя.

**Устройства ног.** Апрача пастаноўкі і растаноўкі, маець вялікае значэньне і само ўстройства ног, ад якіх залежыць шпаркасьць і сіла каня. Спынімся перш на пярэдніх нагах, зазначыўшы, што ногі не павінны быць ані высокія ані тонкія ці наадварот — ані кароткія, тоўстыя. Як першыя, так і другія ёсьць пэўным бракам для каня. Ногі павінны быць адпаведны агульнаму складу каня і пры тым сухія: з выразна заметнымі суставамі, касьцямі і жыламі.

Косьці ног, як ведама, прымацоўваюцца да тулава лапаткай, а ад гэтага і лапатка маець вялікае значэньне. Чым даўжэйшая будзе лапатка, чым яна болей косая, тым конь маець большы шаг. Плячо павінна быць прыблізна ў два разы карацейшае за лапатку. Пры даўгой плечавой косьці конь будзе часта капыціцца. Локаць павінен быць шырокі і доўгі. Падплечча (часьць нагі ад лакця да калена) ў шпаркіх коняй бывае шмат даўжэйшае за цэўку (часьць нагі ад калена да шчоткі). Пярэднія каленкі складзены з 7 костак у два рады. У здаровых і рацівых коняй косткі гэтыя бываець добра знаць, у лянівых, старых і спрацованых — наадварот. Пажадана выбіраць каня з шырокім, сухім і нізкім каленам і пры гэтым абавязкова роўным. Гэткае калена ёсьць пэўнай прыметай сілы ног каня. Крэпка выгнутыя наперад калені сьведчаць аб тым, што конь „абжараны“ (сапсуты на ногі) або, як кажуць, маець „казінец“. Гэткія калені паказваюць на слабасьць ног. Таксама ногі слабыя, калі калені ўвагнёны назад (як у барана), або ў сярэдзіну (як у каровы), ці на бакі.

Ня меншую ўвагу трэба зварочваць і на заднія каленкі (скаковыя суставы), якія бязумоўна павінны быць здаровыя. Суставы задніх каленак найчасьцей паддаюцца розным хваробам, а дзеля гэтага трэба быць асьцярожным. Каб пераканацца, ці здаровыя суставы, трэба прагнаць каня рысьсю. Калі суставы хворыя, то нага будзе згібацца няроўна, дрыгаючы. У часе ходкі каня шагам, у суставах можна чуць глухі стук ці трэск. Як пярэднія, так і заднія каленкі таксама не павінны быць занадта ўвагнёнымі ні назад ні наперад, а таксама не павінны быць крэпка сьціснутымі разам, ці наадварот — растапыранымі на бакі.

Цэўка пярэдніх ног і галёнка задніх не павінны быць тонкімі; галёнка павінна быць даўжэйшая за цэўку. Як цэўка, так і галёнка (часьць нагі ад задніх кален да путавога сустава) павінны быць сухашчавыя з добра выяўнымі тугімі, нацягнутымі, як струны, жыламі.

Тоўсты і шырокі путавы сустав паказваець на сілу каня. Путавая костка задніх і пярэдніх ног не павінна быць доўгай. Доўгая путавая костка, хоць і даець болей мягкі ход, але затое і крэпка выцягваець жылы, і робіць іх слабымі, так што лепей костка кароткая.

Канчаючы агляд устройства ног капытамі, мусім сказаць, што як-бы там ня былі добра ўстроены ногі, а калі капыты будуць дрэнныя, то конь ня будзе імі добра валадаць, а дзеля гэтага трэба ўважна разглядзець капыты зьверху і зьнізу. Венчык у добрага каня павінен быць шырокі і сухі, і пры тым цэлы, без засечак, ранаў і пухліны. Рог капыта павінен быць цёмны, цэлы, гладкі і бліскучы. Стрэлка павінна быць вялікая і высокая, падошва ўвагнёная Велічыня капытаў павінна быць мерная, стасунковая да ног. У рацівых, удалых коняй найчасьцей капыты бываюць занадта малыя і пры гэтым надта сухія і хрупкія. Апрача гэтага, у рацівых коняй капыты бываюць заўсёды болей вострыя, чым у лянівых.

## Праездка каня.

Калі і па складу свайму і па гадох, і па ўстройству часьцей свайго цела конь будзе адпаведны ўсім вымогам, то каб канчаткова пераканацца ў яго вартасьці, трэба на ім праехаць вярхом і ў запрэжцы. Апрача здароўя і шпаркасьці ног, пры праездцы можна яшчэ пазнаць натуру каня, яго тэмпэрамэнт. Часта конь маець той ці іншы нораў (бывае наравісты). Некаторыя брыкаюцца, кусаюцца, іншыя замест таго, каб цягнуць воз наперад, б'юць у хамут, або зусім стаяць, як укопаныя, на месцы, а калі пачаць іх біць, толькі брыкаюцца, або, рушыўшы з месца, конь прэць на ўсю моц, ламаючы і крышачы калёсы.

Найлепей, каб першым праехаў на кані шагам, а пасьля рысьсю сам прадавец або хто іншы, каб можна было здалёка бачыць ходку каня; пасьля трэба абавязкова праехаць самому. Каб лепей пазнаць натуру і рацівасьць каня, ня трэба пры праездцы ўжываць пугі, а абходзіцца з канём спакойна, ласкава.

У часе ходкі, конь ступаець задняй нагой або ў сьлед пярэдняй, пакрываець яго, або задняй нагой не дастаець сьледу пярэдняй (не даступаець), або сьлед задняй нагі пераступаець сьлед пярэдняй. Болей спорны, шырокі, шаг будзе ў каня, калі ён пераступаець задняй нагой сьлед пярэдняй. Пераступаньне сьлядоў лічыцца пэўнай прыметай, паказваючай на здольнасьць каня да шпаркага бегу.

Да найболей важных недахваткаў руху ног у часе ходкі залічаюць: калі капыты нізка падымаюцца ад зямлі, а часам проста капыта скрабець носам аб зямлю. Гэткі ход называецца нізкім. Коні, якія маюць нізкі ход, на няроўнай дарозе часта капыцяцца і валяцца. Высокі ход (калі конь падымаець капыта занадта высока ад зямлі) нядобры тым, што конь траціць шмат часу і сілы на падыманьне ног. Калі суставы ног цэлыя, здаровыя, то ход у каня павінен быць роўны, плаўны. Калі суставы ног хворыя, то у часе ходкі конь ступаець на хворую нагу асьцярожна, ад чаго ход бывае няроўны: конь можаць кульгаць, або панырkаць наперад, трымаць нагу ня згібаючы і г. д. Каб пераканацца ў здароўі ног, трэба каня прагнаць шпаркай рысьсю, а затым раптам стрымаць. Конь з здаровымі нагамі становіцца адразу сьмела і цьвёрда, а з хворымі — прысядаець на тую ці другую нагу, або трымаець яе адставіўшы. Пры гэтым можна пераканацца па ўздухах, ці маець конь дыхавіцу.

Праездкай канчаецца выбар каня. Пасьля праездкі гаспадар павінен акачальна рашыць пытаньне: купляць гэткага каня ці не?

Канец.

*Янка Пачопка.*

## Ратуйма азіміну.

Сёлетняя восень, як кожнаму ведама, была над'звычайна мокрая і па азімых засевах усюды блішчэла вада. Раптоўны сьнег выпаў на мокрую зямлю і не дало замарозіць зямлі.

Практыкованыя людзі цьвердзяць, што калі зямля не замерзьне і нападае многа сьнегу, дык азіміна можа загінуць, таму што праз усю зіму пад сьнегам будзе цяплыня, ад гэтай цяплыні карані жыта ў гразі пачнуць гніць.

Дзеля гэтага трэба ратаваць азіміну.

Спосаб гэтага ратунку зусім просты. Трэба толькі зляжыцца некалькім гаспадаром і выгнаць коні на тое месца, дзе знаходзяцца азімыя пасевы. Узяўшы лейцы ў рукі, трэба коні ганяць, як-бы барануючы, ўзад і ўперад.

Коні будуць вязнуць праз сьнег у самую гразь. Гэтым і дасягаем свае мэты, бо густа скапычаны сьнег аж да самай зямлі пры першым марозе прымерзьне наскрозь разам з зямлёй.

Гэткім чынам, уратуем азіміну, каб часам ад цяплыні і макраты пад сьнегам не сапрэла.

Дык якнайхутчэй за працу, пакуль яшчэ ня позна!

*Янка Тарыкаў.*

---

## Як трэба загатауляць мяса, каб яно доуга не псавалася.

Перад самымі Калядамі па вёсках амаль ня кожны гаспадар заколвае на мяса парсюка, але часта-густа ад няўмеласьці загатоўкі мяса, яно не праляжыць і да вясны, і псуецца, ад чаго бывае селяніну вялікая шкода. Несьвядомыя ў гэтым дзеле гаспадары робяць так: заколваюць парсюка і разабраўшы яго кумпякі і лапаткі з рэштай мяса складваюць у начоўкі ці цэбар, і густа абсыпаюць сольлю. Гэтак мяса соліцца 2 — 3 дні, пасьля чаго мяса з хаты выносіцца і падвешваецца на гарэ пад самым стропам. Пад вясну, яшчэ пакуль мароз ня спыніўся, мяса, як трэба быць, бывае сьвежым і ня мае ніякага паху, а як толькі мароз прападзе—пачынае псавацца—асьлізьнець і запляснеець.

Калі гаспадар (ня скупы) — зьесьць мяса да вясны, дык і бяды няма, а каторы гаспадар (скупы) пакіне мяса да цёплых вясновых дзён, то ўжо няма рады, пачынаюць зьяўляцца ў мясе чэрві і так хутка вырастаюць, што за тыдзень бываюць велічынёй з мурашчынае яйко. Нябрыдлівыя гаспадары гэткае мяса кладуць у гарачую печ, каб ад гарачыні чэрві павылазілі вон, але мала хто з гаспадароў робіць гэткую работу, найчасьцей гаспадар бярэ мяса з чарвямі і кідае сабацы пад ногі: „еш „кудлаты“ і дзякуй гаспадару — дурню“.

Як-жа маем загатаўляць мяса, каб яно і ўлетку не псавалася. Вось ёсьць некалькі спосабаў загатоўкі мяса, каторыя кожнаму гаспадару трэба ведаць.

Закалоўшы і ўжо разабраўшы парсюка, трэба яшчэ ў цёплыя кумпякі і лапаткі ўціраць зьмешаную соль з салетрай. На дзьве часьці солі трэба дамяшаць адну часьць салетры. Пры укладцы мяса для солкі ў цэбар, перш за ўсё, насыпаецца вышэйпамянёнай мяшанкі на дно цэбра ці кадушкі таўшчынёю ў $1/2$ цалі, пасьля чаго ўжо кладзецца мяса і гэтак перасланваючы аж да верху цэбра, а наверх насыпаецца слой солі і націскаецца днішком, а паверх каменем. Паставіць трэба ў варыўню.

Калі-б ня было пад рукой салетры, дык можна ўціраць у кумпякі мяшанку, зложаную з 4-х часьцей солі і адной часьці звычайнага з печы попелу. Мяса ўкладваецца ў цэбар ці кадушку для солкі гэтак сама і так-жа перасланваецца, як і мяшанкай з солі і салетры.

Калі мяса адтрымана ад 3—4 пудовага парсюка, дык даволі яго саліць 5 тыдняў, а калі парсюк быў вагай больш, як 4 пуды, трэба саліць ня менш як 7 тыдняў. Пасьля таго мяса вымаецца з расолу і абмываецца цеплаватай вадой ад солі і попелу, а потым абмазваецца (кумпякі і лапаткі) разьведзеным густа ў вадзе попелам, ад чаго зьяўляецца на мясе кара, праз каторую ня будзе пранікаць паветра і ня будзе зароджвацца гніль, апрача таго, калі-б хацелі мець вангліну— ня будзе выпускаць клустасьці, калі будзем вангліць у коміне.

Вангленьне мяса робіцца так: вешаецца ў лазьні на шастох мяса і першы тыдзень паляць у печы толькі гнілымі дрывамі ці ягленцовымі, а то яловымі лапкамі так, каб лазьня не награвалася, а толькі быў дым. Другі тыдзень каб праз увесь час было цяплыні 20 градусаў, трэцьці—30 градусаў.

Гэткі спосаб вангленьня мяса можна рабіць толькі складчынай—некалькімі гаспадарамі.

Найпрасьцейшы спосаб вангленьня мяса—гэта вешаць у комін, дзе яно пакідаецца на цэлы тыдзень. Мяса ад гэтага вангленьня ня псуецца і ўлетку.

Спосаб загатоўкі мяса без вангленьня: на адно вядро вады дадаюць 4 фунты солі і 0,1 гр. салетры, устаўляюць у печ, каб вада заварылася разам з сольлю і салетрай, і гэтым варам заліць сьвежае мяса так, каб расол быў вышэй мяса на $1^1/_2$—2 вяршкі. Летам мяса ў гэтым расоле павінна ляжаць да 13 дзён, а зімой да 30, і ў найсьцюдзёнейшым месяцы, зімой — абы не замярзала. Па сканчаньні тэрміну солкі, мяса вымаецца і абмываецца цеплаватай вадой, потым трэба яго выцерці рызінкай і палажыць у другі расол, каторы прыгатаўляецца гэтак: у вядро пераваранай вады ўсыпаецца 10 фунтаў солі, 4 фунты звычайнай сажы і добра перамешваецца. Трэба перамешваць некалькі разоў, а пасьля двух дзён мешаніна працэджваецца праз рызінку і гэтым расолам залівецца мяса. Расол павінен быць паверх мяса у $1^1/_2$ вяршка. У гэткім расоле мяса маладых парасят трэба каб ляжала 4—5 гадзін, а мяса дарослых сьвіней 8—9 гадзін. Па ўплыве тэрміну, мяса з расолу вымаецца і падвешваецца на гарэ пад страхой, дзе ёсьць скразьнік, а цераз тыдзень мяса гэтае складваецца ў дзежку, дзе і будзе ўвесь час перахоўвацца.

Дужа добра летам мяса перахоўваць у арудах з жытам, а калі часам жыта ня здарыцца, дык зусім добра перахоўваць у бочцы з саламянай рэзкай і прыціснуўшы днішком, а паверх каменем.

Мяса толькі што заколатага кабана ўлетку будзе зусім сьвежым да 8 дзён, калі паложым у варыўню і абложым яго з усіх бакоў крапівой, ці закапаем мяса ў сухое вугальле.

*Янка Тарыкаў.*

# Жывакост.

Жывакост гэта расьліна з вялікімі, яснаватымі, шорсткімі лісьцямі, з краскамі, падобнымі да званочкаў—з пачатку рожавымі, якія пасьля робяцца блакітнымі, і з чорнымі мясістымі карэньнямі. Расьліна гэта спатыкаецца ўсюды ў нашым краі на вільготных сенажацях, або берагох стаўкоў і рэчак.

Назоў свой—„жывакост“ гэтая расьліна адтрымала дзеля таго, што народ ад няпамятных часоў ужывау адвару яе карэньняў пры зламаньнях косьці, як дасканальнае лякарства, загойваўшае раны і прысьпяшаўшае зрастаньне касьці.

Карэньні жывакосту можна заўсёды знайсьці ў нашых знахароў і знахарак, якія даюць адвар гэтых карэньняў для гаеньня застарэлых ранаў, напр. нарываў і інш. рэчаў, а таксама даючы піць гэты адвар пры вострых катарах жывата і пры сухотах, асабліва злучаных з харканьнем крывёй.

Гэтае лячэньне знахароў жывакостам зьяўляецца зусім рацыянальным, дзеля таго, што навуковыя досьледы праведзеныя ў Англіі (1911—12 г.) паказалі над'звычайныя, гаючыя ўласьцівасьці гэтае расьліны.

Іменна др. Macalister, робячы дасьледы ў сваёй хірургічнай клініцы ў Эдынбургу пацьвярдзіў, што застарэлыя нарывы на *бёдрах*, якія ён ня мог вылячыць іншымі спосабамі ў працягу паўгода, — вылячыў жывакостам у працягу двух тыдняў.

Жывакост мае ў сабе асаблівую субстанцыю, званую альлянтоінай, якая прычыняецца да шыбкага росту костак і тканяў ня толькі ў ранах, але нават і ў здаровым арганізьме, калі жывакост прымаецца ўнутро.

Аб гэтым факце ведалі здавён гадавальнікі быдла ў Англіі і Амэрыцы, якія гадуюць там жывакост пад назовам „Comphrey“ (чытай Комфрэй), як пашу для цялят і парасят.

Маладыя жывёлы, ядучы зельле жывакосту, як дадатак да пашы, шыбка растуць і дасканальна сыцеюць.

На пашу ўжываецца зельле, якое рэжацца на сечку, парыцца так, як крапіва, а за тым мяшаецца з бульбай і мукой і даецца жывёле. У часе зімы можна браць карэньні.

Гадоўля жывакосту надта лёгкая, вымагае толькі добрае зямлі, вільготнае і плоднае. На землях, на якіх удаецца капуста, будзе добра расьці і жывакост. Жадаючы завясьці плянтацыю, трэба выкапаць на сенажаці, ці ў зарасьлях кусточкі жывакосту і рассадзіць іх у радкі на 1 арш. адлежнасьці (бо моцна разрастаецца). Кусточкі можна дзяліць нават на часьці. Раз пасаджаны жывакост размнажаецца пасьля сам з насеньня, а нават з кускоў карэньняў, якія засталіся пасьля выкапаньня, так што няраз вывясьці яго бывае ўжо цяжка.

Дзеля гэтага, пад гадоўлю жывакосту трэба выбіраць нейкі кут у гародзе, які будзе ўжо спэцыяльна для яго прызначаны.

Ужо ў траўні жывакост разьвівае на добрай зямлі пукі вялікіх (як у хрэне) шорсткіх лісьцяў, а пасьля выпускае тоўстыя, сочныя, ледзь што на мэтр высокія сьцеблякі. Вось ад вясны, аж да позьняе восені, можна абрываць часьць лісьцця і зрэзваць вяршочкі сочных сьцеблякоў на пашу для маладой жывёлы, а нават і для птушак, бо кураняты, маладыя качкі, індыкі, гусі ахвотна ядуць жывакост, пасечаны разам з бульбай і мукой.

Жывёлы і птушкі, кормленыя гэткім спосабам, хутка растуць і сыцеюць.

Хто хоча, каб куры добра нясьліся зімой, хай суша ў працягу лета лісьцьцё жывакосту (сушыць трэба не на сонцы, а ў цені), расьцірае яго на грубы парашок і перахоўвае ў сухім месцы (найлепш у мяшкох, павешаных на страсе). Зімою дасыпаецца спарашкованага лісьцьця ў корм для птушак, натуральна не забываючы адначасна аб даваньні збожжа.

Каб ня надта вычэрпаваць сваю жывакоставую плянтацыю, ня трэба пры зьбіраньні зрываць усіх лістоў і сьцеблякоў з кустоў жывакосту, а пакідаць прынамсі адзін ці два сьцеблякі, якія змогуць зацьвісьці, даць насеньне і служыць самазасяваньню плянтацыі.

Пры большай плянтацыі можна падзяліць яе на некалькі часьцей і карыстаць з кожнае па чарзе праз некалькі тыдняў у працягу году.

Увосень, калі пачынаюцца замаразкі, можна зрэзаць рэшту зельля і зрабіць з яго квашаніну для жывёлы, ці ізноў высушыць. Карэньні, калі расьліны ў працягу году, ці двух гадоў, разрастуцца, можна ўвосень выкопваць і, перахоўваючы, як бульбу, дадаваць у працягу зімы да пашы. Карэньні могуць быць застасаваныя таксама, як лекі.

Калі хочам іх прадаць у аптэцы, ці ў аптэчным складзе, дык тады пры выкапаньні мусім іх старанліва абмыць і абчысьціць ад сьцеблякоў і папсованых частак, таўсьцейшыя трэба перарэзаць і высушыць каля печы (найлепш нанізаць на шнурок і павесіць у хаце, каля печы).

За сухія, чыстыя карэньні жывакосту плацяць ад 1 да $1^1/_2$ зл. за кілё.

Трэба яшчэ зазначыць, што жывакост — расьліна зусім без атруты, дзеля чаго ўжываньне яго ці то як пашы, ці як леку — ніколі не пагражае здароўю.

Хто захацеў-бы пазнаёміцца з гэтаю расьлінай і адтрымаць пробныя саджанцы, хай зьвернецца ў красавіку, ці траўні, ці ў працягу лета да Агароду Лякарскіх Расьлінаў Унів. С. Бат. Wilno ul. Objazdowa № 2. Заклад Фармакогнозіі.

*(„Kultura“).*

# ПЧАЛЯРСТВА.

## Сыстэмы вульлёў.

Усіх сыстэмаў вульлёў ёсьць надта шмат. Бо з таго часу, як болей значнейшыя пчаляры ўсіх краёў, зразумелі патрэбу ўвядзеньня новага разборнага вульля, болей дагоднага для пчолак і для пчаляра, на места першабытнага вульля-калоды, з таго часу ўжо ня мала выдатных пчаляроў папрацавала над тым, каб гэты вулей, заступіўшы калоду, ад'значаўся ўсё большай і большай дасканальнасьцяй. І трэба ацаніць вялікую заслугу тых усіх выдатных пчаляроў стараньнікаў, дзеля таго, што іх высілкі не змарнаваліся, а, здабываючы сабе ўсё больш і больш прыхільнікаў, далі пажаданыя вынікі, далі нам удасканаленыя сёньня разборныя вулей. Я кажу тут наагул аб дасканальнасьці і дабраце разборнага вульля, не

называючы якое-колечы сыстэмы, якіх, як я ўжо казаў, ёсьць надта шмат.

З гэтых многіх сыстэмаў, разумеецца, ёсьць сыстэмы болей і меней дасканальныя, гледзячы калі і дзе былі яны выдуманыя і ўведзеныя ў жыцьцё. Ёсьць сыстэмы разборных вульлёў сканструованыя ў самых пачатках іх вынаходу, якія, разумеецца, ня могуць канкураваць з сыстэмамі вульлёў, пазьней сканструованых, а тым болей з сыстэмамі, вульлёў сканструованых у канцы XIX-га і ў пачатках XX га стагодзьдзя, якія пабілі рэкорд усім даўнейшым сыстэмам. Вот-жа, гаворачы аб розных сыстэмах вульлёў наагул, трэба ад'значыць тое, што ўсе сыстэмы вульлёў навейшай канструкцыі, ня гледзячы на іх дасканальнасьць, ня могуць, аднак-жа, знаходзіць застасаваньня ўва ўсіх краінах, бо вялікую ролю тут граець клімат і меданоснасьць данае краіны, дзеля гэтага мы і бачым, што амаль ня ў кожнай краіне ёсьць свая сыстэма вульлёў, якая цешыцца павагаю пчаляроў данае краіны. Толькі некаторыя сыстэмы вульлёў, як амэрыканскі вулей Дадана-Блатта і польскі вулей Лявіцкага, званы інакшай „Варшаўскім" знайшлі сабе прызнаньне на ўсей траха славяншчыне.

Каб пазнаёміць болей-меней чытача з тым, калі пачалося імкненьне пчаляроў да шуканьня і ўвядзеньня на сваіх пасеках вульлёў лепшай канструкцыі, я пастараюся прывясьці гэтае імкненьне ад самага пачатку. Вот-жа, першым здаецца пчаляром, які выдумаў надстаўныя вульлі, але яшчэ з *нярухомымі рамкамі*, быў ангелец Гэдэ ў 1649 годзе. Вулей яго складаўся з дзьвёх скрынак, якія накладаліся адна на адну. Шмат, аднак-жа, прайшло часу, пакуль яго вулей знайшоў застасаваньне ў жыцьці.

Другі пчаляр, які запрапанаваў сваім калегам надстаўныя вульлі, быў Рыэм, а потым нарвэжац Хрыст у 1798 годзе.

Усе гэтыя вульлі ад'значаліся сваёй прымітыўнасьцю і складаліся толькі з некалькіх скрынак, якія, па меры запаўняньня мёдам, накладаліся адна на адну. Часта гэтыя вульлі былі роблены з саломы ў форме цыліндраў, якія гэтак сама накладаліся адзін на адзін, верх якіх пакрываўся саламяным, альбо дзеравянным кружком. Тое толькі характарна, што ў гэтых вульлёх, надстаўкі падстаўляліся пад спод, у той час, калі яны ўнас цяпер ставяцца наверх, а яшчэ на тое трэба зьвярнуць увагу, што ў нас вуза і плястры мёду знаходзяцца ў рамках, у той час. калі ў вульлёх даўнейшай сыстэмы рамак ня было, і плястры вяліся пчоламі зьверху да нізу зьлепленымі ў адну кучу; так што, хочучы зьняць надстаўку, трэба было аддзяляць адну настаўку ад другое, перапілаваўшы дротам, альбо ніткаю ўсе плястры, якія знаходзіліся ў вульлі, і якія былі зьлітыя ўва ўсіх настаўках разам. Дзеля таго, што настаўкі ў такіх вульлёх заўсёды даваліся пад спод, матка заўсёды прыходзіла і старалася зачарвіць усе новазбудованыя плястры, дзеля гэтага ў гэткіх вульлёх заўсёды было шмат чарвы і мала мёду. Гэтае ўсё і тое, што такія вульлі былі вельмі недагодныя ў пчалярскай практыцы. выклікала, што гэтыя сыстэмы вульлёў загінулі. Уся-ж прычына недагоднасьці і непрактычнасьці гэтых вульлёў ляжала толькі ў тым, што надстаўкі клаліся пад спод, а ня зьверху, але тады і гэтага не маглі зразумець, бо пчалярства стаяла яшчэ зусім на нізкай ступені разьвіцьця. Але і тады ўсё-ж такі пчаляры стараліся палепшыць гэтыя новавыдуманыя вульлі, пры помачы розных камбінацыяў, якія ня раз былі вельмі дзіўныя і сьмешныя, пакуль, нарэшце, не знашоў я адзін з пчаляроў, амэрыканец *Лянгстрот* у 1851 годзе, які выдумаў рамку, а за ёю і рамовы надстаўковы вулей. Ад таго часу і пашлі выперадкі розных пчаляроў, якія стараліся ўсімі спосабамі вулей Лянгстрота палепшыць і хацця да нашага часу ўжо дапялі гэтага палепшаньня, аднак-жа, галоўная думка засталася, а дзеля гэтага Лянгстроту належыць першае месца ў галіне вынаходу *рамовых надстаўковых вульлёў*. Вулей яго складаўся з корпусу, альбо інакшай гнязда з рамкамі і з наставак. На корпус вульля з гняздовымі рамкамі, па запаўненьні іх, клалася *зьверху* настаўка з рамкамі напалавіну меншымі, інакшай карацейшымі чымсьці ў гняздзе.

На сыстэме вульлёў Лянгстрота, пабудаваў сваю сыстэму. удасканаліўшы яе, амэрыканец *Роот Дадан-Блатт*, які займаець цяпер першае месца.

Я даў агульны пагляд, або вызначыў тую лінію, па якой ішло разьвіцьцё рамовага надстаўковага вульля. Цяпер мой абавязак дакладна апісаць тыя сыстэмы вульлёў, якія спатыкаюцца ў большасьці ў нас на Беларусі, і да якіх належаць вульлі: 1) амэрыканскі — Дадана-Блатта, 2) варшаўскі — Лявіцкага і 3) славянскі — д-ра Цясельскага.

*Пчаляр.*

## Гігіенічна-ратаунічы аддзел.

### Барацьба з сухотамі.

(Гл. № 37 „Б. Д.").

**Рады для кашляючых.**

1. Трэба ўнікаць кватэраў у вузкіх вуліцах, не пражываць у сутарэнах, на партэры і ў зусім новых дамох, таксама і там, дзе не даходзе сонечнае сьвятло, асабліва дзе малыя вокны і цёмныя кватэры. Кватэры мусяць быць прасторнымі і чыстымі.

2. Увеўшыся на кватэру, трэба сьцены выбяліць або памаляваць, а падлогу добра вышараваць гарачай вадой з шэрым мылам і нашмараваць спэцыяльнай парафінавай масай, якая прадаецца ў магазынах.

3. Вокны не павінны шчыльна замыкацца.

4. Раніцай і ўвечары перад спаньнем трэба праветраваць спальны пакой, адчыняючы на якіх пару мінют вокны або дзьверы; адносіцца гэта таксама і да зімы. Трэба спаць найменш восем гадзін у пору.

5. У пакоі, дзе сьпяць, ня трэба трымаць лішніх рэчаў, зьвярыны, не перахоўваць адзежы, нячыстага порця і пажыўных прадуктаў, якія часта псуюць сьвежае паветра, што зьяўляецца цяжкім і шкодным пры дыханьні.

6. Кашляючы павінен унікаць месцаў курных, дзе ёсьць шмат пылу. Пыл заўсёды трэба сьціраць мокрай анучай. Няможна замятаць падлогі насуха, трэба яе добра спырскаць вадой.

7. Унікаць рэстаранаў, піўных, танцавальных саляў, бо паветра там заўсёды зьяўляецца шкодным для кашляючых.

8. Ня курыць самому, не прабываць там, дзе

кураць іншыя і ня ўжываць нюхальнай табакі. Папяросы, цыгары, а асабліва люлькі шкодзяць так на дыханьне, як на жывот і нэрвы.

9. На вуліцы старацца дыхаць носам. Асабліва ў халодныя часы. Нос з большага ачышчае паветра ад пылу і награвае яго.

10. На магчымасьці, калі хто можа, хай працуе на сьвежым паветры, а не ў замкнутым і душным пакоі. Перад пачынаньнем працы, у перэрвах і пасьля працы добра выходзіць на спацыр, хадзіць павольна.

11. Рана штодзень абмываць халоднай вадой твар, шыю, плечы, грудзі і рукі, пасьля чаго насуха добра выціраць; глядзець пры гэтым, каб не прастудзіцца.

12 Пасьля кожнай яды, а асабліва рана і ўвечары паласкаць рот і ўласнай шчоткай чысьціць зубы, лепш, калі гэта рабіць з цёплай вадой. Шчотку прынамсі раз у тыдзень трэба вывварваць.

13. Не адзявацца праз меру цёпла, каб ня быць ад гэтага спацеўшым, асабліва ў халаднейшыя часы. Адносіцца гэта і да хатняй тэмпэратуры, якая павінна быць 15 градусаў. Вялік я духата даводзіць да хутчэйшага прастуджаньня і асабліва шкодзіць дзецям, як гэта бывае пры коклюшы (дзіцячая хвароба).

14. Абавязкава ня менш, як раз у тыдзень зьмяняць порце. Кладучыся спаць, адзяваць начную сарочку, раніцай адзяваць дзенную. Ніколі ня спаць у ваўняных, суконных ці мультановых сарочках. Ня спаць па печы, як гэта бывае на вёсцы, таксама пры халоднай сьцяне. Ня спаць пад пярынай Спаць паадзіночна ў ложку.

15. Не насіць цеснай адзежы (цесны каўнер, каўнерык і кароткія падцяжкі, спыняючы глыбокае дыханьне) Не падпяразвацца вельмі туга поясам ці дзягай, ня ўжываць сьцягваючых гарсэтаў.

16. Ня глытаць сплёвінаў і ахракаў.

17. Няпрыстойна і шкодна для іншых кашляць, не прысланіўшы рота, або пляваць навокал сябе на падлогу, на сходы і на зямлю, што пасьля, калі высахне, унос цца ў паветра і будзе заразным для іншых і дасьць прыкры пах.

18. У часе кашлю пры другой асобе трэба засланіць рот рукой, хустачкай, кавалкам паперы (напрыклад, кавалкам старой газэты), які пасьля можна спаліць.

19. Пляваць заўсёды да напоўненых вадой плявачак.

20. Пажадана, каб кожны кашляючы меў уласную кішэнную плявачку.

21. З плявачак выліваць да зьліваў або клязэтаў, пасля чаго выпарыць плявачку гарачай вадой з содай.

22. Калі няма плявачкі, дык можна сплюнуць у кавалак паперы і спаліць яго, або ўжыць на гэта рознае апакаваньне.

23. Тады, калі няма іншай рады, як пляваць у насавую хустачку, дык часта трэба яе зьмяняць і мыючы добра вываpваць. Ня можна разьверчаваць хусткі з засохшымі ахракамі, бо тады яны распыляюцца і будуць удыханыя здаровымі і хворымі, і такім чынам могуць заразіць. З гэтай прычыны ня радзіцца сплёўваць у хустку.

24. Кожны кашляючы павінен коратка стрыгчы бараду і вусы.

25. Есьці трэба павольна, сухую і цьвярдую ежу трэба добра перагрызьці і пераважаваць, а жыдкую піць малымі глыткамі.

26. Есьць у аднэй і тэй самай пары ў сыстэматычна вызначаных гадзінах, прыймаць лепш часьцей, але меншыя порцыі.

27. Есьць з асобнай талеркі, а ня з супольнай міскі — як гэта кажа пагаворка: „Каля ямы ўсе з кіямі“. Ложка павінна быць сталая і ёй аднэй заўсёды есьці; лепш, калі яна цыновая.

28. Не даваць ніколі свайго куска іншым, ня ўжываць зубоў для раздрабляньня, напрыклад, цукру і даваць пасьля яго напр. дзецям, як гэта часта ў нас робяць маткі.

29. Надаецца гэткае кармленьне: мяса, салодкае пераваранае малако, вараная сьмятана, кіслае малако, кэфір, яйкі ў зьмятку, масла, гароднiна (развараны гарох, тушоная, добра акрашаная бульба, рыж), мучныя стравы і тран (рыбі жыр).

30. Алькагольных напіткаў, як гарэлка, каняк, лікёры, віно і піва ні ў якім выпадку ня можна ўжываць.

Т. К.

# Корэспондэнцыі.

## П'янства пашыраецца.

П'янства, гэта страшнае няшчасьце нашага беларускага селяніна.

У Грыцэвіцкай воласьці яно ня спыняецца, а пашыраецца з кожным днём.

З гарэлкай наш селянін так падружыў, што ня можа з ёю растацца на адну мінуту. Што-б не рабілася ў хаце селяніна: хрэсьбіны, вясельле ці хаўтуры, а гарэлка абавязкова ёсьць. Прадаў не прадаў, купіў ня купіў, а барыш выпілі. Калі-б палічыць, колькі выпадкаў, з прычыны гэтай гары, толькі ў аднэй нашай воласьці, дык валасы становяцца на галаве. Цяпер у нас п'юць усе: мужчыны, старыкі, хлопцы, дзяўчаты і навет дзеці. П'юць, п'юць, а пасьля: бойкі, паліцыя, пратаколы, міравы суд, а часта бывае, што і сьмерцяй кончыцца. Даўней хоць духавенства вяло барацьбу з гэтым злом, а цяпер, дык ніхто. Сяляне Грыцэвіцкай воласьці, пакіньце піць гарэлку, не атручвайце сябе! Лепей за грошы, якія прапіваеце, выпісвайце больш беларускіх газэт, кніжак, бо толькі чалавек цьвярозы і сьвядомы — карысны сваёй Бацькаўшчыне.

*Гэля Беларуска.*

## Добры пачатак.

(*Баранавічы*).

Па ініцыятыве Аўгеня Міткевіча — сябра Аддзелу Сойміку, Баранавіцкі Аддзел ухваліў крэдыты на заснаваньне пры кожнай воласьці біблятэк-чытальняў з газэтамі і кніжкамі — польскімі і беларускімі, а таксама курсаў у кожнай воласьці для дарослых у беларускай мове, хаця школьны інспэктар і спраціўляўся, даказваючы, што няма беларускіх падручнікаў.

Дык беларускія выдавецтвы павінны рыхтавацца да працы, бо за Баранавіцкім паветам пойдуць і іншыя, а тады запатрэбаваньне на кніжкі будзе вялікае.

У добры час!

### Зьезд радных Беларусаў.

27 мінулага лістапада ў Баранавічах адбыўся першы павятовы зьезд радных-беларусаў Баранавіцкага павету. Прысутных радных і войтаў было 94 чалавекі. Старшынёю быў Аўген Міткевіч. Вынесены дзьзе пастановы: адна характару самаўрадова-гаспадарчага і другая аб „працы“ вядомага дохтара? Паўлюкевіча. Выбраны 3 дэлегат.. ў Акружны Камітэт самаўрадоўцаў: гр. Міткевіч, Афанасік і Павядайла.

Прысутнымі на зьездзе былі прадстаўнік П. Т. А. і беларускай прэсы гр. Маразовіч („Маланка“). Зьезд прайшоў вельмі паважна *К.*

## БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

### Лекцыі ў Бел. Студ. Саюзе.

У нядзелю 11 сьнежня г. г. ў памешканьні Беларускага Студэнскага Саюзу, а 6 гадз. вечара адбудзецца лекцыя гр. А. Зянюка на тэму: „Асадніцтва на Беларусі“.

### З Беларускае Віленскае Гімназіі.

Віленская Беларуская Гімназія перажывае цяжкі матар'яльны крызыс. Пэнсіі настаўнікам за апошні месяц, дзякуючы недахвату грошай, ня выплачаны.

Беларускае грамадзянства павінна рупіцца аб вельмі важнай культурнай установе.

# Апошнія навіны.

**Жэнэва.** У Жэнэве адбываецца сэсія Рады Лігі Народаў. Між іншым Рада Лігі Народаў разглядае літоўска-польскую спрэчку. Дэеля гэтага выехаў у Жэнэву марш. Пілсудскі.

**Швэцыя.** У Швэцыі выкрыта вялікая шпіёнская афэра, ў якую замешаны савецкі ваенна-марскі прадстаўнік у Швэцыі. Шпіёнскую работу вёў паручнік запасу швэдзкай арміі, які дастаўляў Саветам ведамасьці аб марскім узбраеньні Швэцыі.

**Англія.** Падчас конфэрэнцыі аб разбраеньні прадстаўнік Саветаў Літвінов меў спатканьне з ангельскім міністрам заграпічных справаў Чэмбэрленам.

Газэты падаюць, што мэтай спатканьня была спроба навязаньня адносін паміж Саветамі і Англіяй.

**С. С. С. Р.** У Маскве адбываецца 15-ты конгрэс Усерасейскае Камуністычнае Партыі. Ад імя опозыцыі выступалі Каменеў, Еўдакімаў і іншыя. Опозыцыя асталася ў нязначнай меншасьці. Конгрэс выказаўся за палітыку Сталіна.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Гэнадзі Райчонак у в. Рымкі.** Каб даведацца аб лёсе Вашага брата, трэба напісаць у Чырвоны Крыж у Варшаву, адрэс: Warszawa—„Towarzystwo Czerwony Krzyż“ гэтае Т-ва сьпішацца з нямецкімі установамі, якія мо' і паінфармуюць Вас аб браце.

Машына да вырабу штучнае вузы каштуе каля 420 зл. без перасылкі, сячкарня ручная 95—140 зл. (можа быць і конная), пружыновая барана ад 60 зл. у фірме Z. Nagrodzki—Вільня Zawalna 11-a.

**Адаму Міхновічу ў Будславе.** Прачытайце ў сельска-гаспадарчым аддзеле „Беларускага Дня“, у № 38 і наступных, дзе знойдзеце адказ на цікавыя для Вас пытаньні аб садаводзтве.

Пошта **Холхло:** Мільгуй Людм.

Пош. **Валожын:** Радына Язэп, Скарабагаты Кароль, Урбановіч Ян, Шчуцкі Сьцяпан, Бажок Ігнат.

Пошт. **Баранавічы:** Купрык Пётра, Шах Віктар, Гірэй Фэлікс, Філіпчык Пётра, Васілевіч Міхась, Карлюк.

Пошт. **Молчадзь:** Журко Тод.

Пошт. **Нова-Мыш:** Жучко Андрэй, Вольчак Алексан., Смоліч Вален.

Пошт. **Гарадышча:** Скачко Кірыл, Капцэвіч Адам, Арцюх Мікалай, Ганяк Язэп.

Пошт. **Селец:** Васілевіч Мікалай.

Газэта будзе высылацца ад 10.XII.1927.



**Чытайце, выпісвайце і пашырайце „БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ“.**

Рэдактар-выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3.